ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (29) жнівень 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны





## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на “Каталіцкі Веснік”. Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**, на тры месяцы – **9000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. “Каталіцкі Веснік” таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Пад апекай Марыі

## У Браславе прайшоў фэст Маці Божай Валадаркі Азёраў

**“Я бачу Цябе, Марыя, у тысячы абразах ва ўсім свеце” – гэтымі словамі з верша распачаў сваю прамову да сабраных вернікаў кардынал Райнер Марыя Вёлькі, арцыбіскуп Берліна, падчас урачыстасці ў гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў 17 жніўня ў Браславе.**

■ **с. Марына Брылёнак**, *тэкст*; **Марына Сінкевіч**, *фота*



Кардынал Райнер Марыя Вёлькі.

Шматлікія вернікі сабраліся ў такі цудоўны дзень, каб ушанаваць сваю Нябесную Заступніцу. Радасным падзеяй для прысутных стала прывітанне рэліквій св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель заклікаў прысутных на ўзор святой перамагаць свае цяжкасці, асабліва перамагаць свой эгаізм. Ён сказаў: “Мы павінны выкарыстоўваць шлях да святасці св. Тэрэзы. Нам трэба кінуцца ў абдымкі Богу і тады на нас сыдзе дождж ружаў – Божых ласкаў – з неба”.

Сярод прысутных было шмат гасцей не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы, у прыватнасці з Польшчы і Германіі.

Падчас гаміліі кардынал Вёлькі, які быў галоўным цэлебрантам Эўхарыстыі, звярнуў увагу ўсіх прысутных на тое, што кожны абраз Маці Божай – гэта сведчанне вялікай любові людзей да Яе. “Марыю любяць усе людзі: простыя і навукоўцы, грэшнікі і праведнікі – усе Яе любяць. Любяць, бо Яна Маці Жыцця.”

Таксама кардынал прывёз крыжы для капітулы канонікаў Віцебскай дыяцэзіі, якія яны будуць насіць. Сам арцыбіскуп іх асвяціў і ўручыў канонікам. Гэтыя крыжы сталі знакам еднасці паміж Касцёлам на Віцебшчыне і нямецкім Патсдамам.

На заканчэнне ўрачыстасці адбылося прысвячэнне дыяцэзіі і ўсёй краіны Маці Божай Валадаркі Азёраў. Пасля чаго кардынал Райнер Марыя Вёлькі падзякаваў усім прысутным за сведчанне жывой веры Касцёла ў Беларусі. Асаблівую падзяку ён выказаў старэйшаму пакаленню за тое, што захавалі скарб веры ў камуністычныя часы. І дадаў: “Мы ўсе павінны ведаць, што свабода нам дадзена Богам і ніхто і ніколі не зможа яе ў нас забраць! Мы – Божыя дзеці, і корань нашай свабоды ў Ім!”

Таксама прагучала шмат цёплых слоў падзякі да ўсіх прысутных гасцей, святароў і вернікаў ад імя арганізатараў, супольнасці айцоў-сальватарыянаў у Браславе.

* капітула канонікаў – група святароў, задачай якіх з'яўляецца дапамога біскупу

Новалукомль

# Камунія ўпершыню



**Усё бывае ўпершыню: першы крык нованароджанага, першая ўсмешка немаўляці, першыя крокі. А потым – першае слова, "першы раз у першы клас", першае каханне… Усё бывае ўпершыню. І хоць дзесьці ў падсвядомасці кожнага чалавека жыве "генетычная" памяць, адкрыццё рэчаіснасці – заўсёды ўпершыню.**

■ **Зося Мацкевіч**, *парафія св. Марыі Магдалены, г. Новалукомль*



Якая падзея самая галоўная? Што ў выніку паўплывае на канчатковае фарміраванне асобы, на яе месца ў грамадстве? Ці знойдзе сябе чалавек наогул, ці зможа акрэсліць сэнс свайго існавання? Думаю, ніхто не адважыўся б адказаць на падобныя пытанні. Яны такія ж вечныя, як і сам Сусвет.

Вось з'яўляецца маленькі чалавек. Расце, пазнае жыццё. Спачатку ласкавы і паслухмяны – малы шчабятун. Потым надыходзіць іншы ўзрост: трэба ўсё аспрэчыць, усё паспрабаваць самому, скрышыць і зноў адбудаваць пантэон жыццёвых прэарытэтаў і аўтарытэтаў. Юнацтва прынясе яму шматколернасць планаў, а сталасць – вопыт і веды. Як уратаваць сваіх птушанят ад непапраўных памылак і неабдуманых крокаў?

Пра ўсё гэта я думала, гледзячы на дзетак, якія прымалі Першую Камунію. Урачыстасць адбылася 14 ліпеня. Здаецца, ніколі не выглядаў наш касцёл такім прыгожым! Промні сонечнага святла залівалі вокны, абразы, алтар, што патанаў у кветках; вясёлкавымі колерамі пераліваліся адбіткі святла на плітках падлогі. Твары бацькоў і дзяцей былі ўсхваляванымі і радаснымі.

Усё адбывалася традыцыйна: словы святара, малітва дзяцей, словы блаславення ад бацькоў, працэсія з дарамі… І ўсё ж – упершыню. Упершыню для гэтых маленькіх людзей, якія, можа, яшчэ не да канца ўсведамляюць, што за падзея адбылася ў іх жыцці. Несумненна, яны старанна рыхтаваліся: хадзілі на заняткі ў касцёл, удзельнічалі ва ўсіх набажэнствах, нават здавалі іспыты. На іх тварыках – радасць і гонар, бо якое свята! Іх свята! А ў вачах дарослых – роздум і спадзяванне: дзеці, дзеці, які не просты шлях у вас наперадзе! Няхай жа Пан Бог вядзе вас за руку і ніколі не пакідае без сваёй апекі.

…А потым былі віншаванні, падарункі, фотаздымкі на памяць, і свята працягвалася доўга-доўга. Яно і цяпер працягваецца і будзе доўжыцца ўсё іх жыццё: свята паяднання з Панам у святой Камуніі.

Мёры



## У Мёрах адбыўся парафіяльны адпуст

■ **Аляксандр Сінкевіч**, *тэкст і фота*

**У мёрскай парафіі 15 жніўня ва ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі адбыўся адпуст.**

У літургіі, якую ўзначаліў Апостальскі Адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель, удзельнічалі кс. Алег Буткевіч, які прамовіў да вернікаў казанне, кс. Кшыштаф Мянкіна, кс. Антон Лагунёнак, кс. Аляксандр Грыцкевіч і а. Алег Шэнда OFMCap.

Музычнае суправаджэнне праводзіў хор "Fiat" з мёрскай парафіі.

На ўрачыстасці прысутнічаў таксама кс. Андрэй Шпак SDB, кіраўнік польскага ансамбля "Echo Sakrosongu". Пасля Імшы прысутныя маглі паслухаць выступленне гасцей з Польшчы.

Валожын

## Новы алтар у валожынскім касцёле

Хочам разам з чытачамі газеты "Каталіцкі Веснік" адгарнуць чарговую старонку з жыцця нашага касцёла Св. Юзафа. З Божай дапамогай дачакаліся мы здзяйснення агульнай мары валожынцаў аб узвядзенні галоўнага алтара. Ахвяры на гэту мэту праз доўгі час складалі не толькі нашы парафіяне, але і жыхары нашага горада розных веравызнанняў. Нам заўсёды будзе спадарожнічаць абраз цудоўнай Маці Божай Будслаўскай, які размешчаны ў самым цэнтры алтара. Ніжэй па баках знаходзяцца абразы святых Пятра і Паўла.

Шчыра дзякуем Госпаду Богу і Св. Юзафу за апеку і дапамогу ў гэтай важнай справе. Няхай добры Бог аддзячыць кс. Генрыху Акалатовічу за арганізацыю пабудовы галоўнага алтара.

***Крысціна Маркоўская**, парафіянка касцёла Св. Юзафа ў Валожыне*

Мексіка

## Эўхарыстычны цуд у Мексіцы?

Цуд, па словах відавочцаў, адбыўся ў парафіі Панны Марыі Маці Касцёла ў горадзе Гвадалахара (Мексіка). Як паведаміў а. Хасэ Далорэс Кастэланас Гудзіна, пробашч парафіі, 24 ліпеня падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ён пачуў голас, які загадаў яму склікаць вернікаў а 15-й гадзіне. Таксама яму трэба было прынесці табернакулюм са сваёй прыватнай капліцы ў касцёл, але не адкрываць адразу.

Калі пробашч парафіі адкрыў табэрнакулюм, кансэкраваная гостыя была акрываўленая.

Паводле слоў святара, голас загадаў яму пабудаваць капліцу і аднесці на даследаванне Найсвяцейшыя Дары. Цяпер меркаваны цуд даследуе спецыяльная камісія, скліканая дыяцэзіяй.

Кардынал Франсіска Раблес Артэга, арцыбіскуп дыяцэзіі, забараніў публічна паказваць гостыю. Яна захоўваецца ў бяспечным месцы ў табэрнакулюме.

*Паводле wiara.pl*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага бласлаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Аліцыя Т.** (г. Паставы), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Ганна Сапель** (г. Браслаў), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Камілія Емяльянава** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Гэнавэфа Бартко** (в. Абруб, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвяраваўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!**

Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў.

Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Вытокі хрысціянства ў Беларусі, або Хто хрысціў Рагнеду?

**Хрышчэнне Кіеўскай Русі ў 988 годзе і прыняцце князем Уладзімірам хрысціянства з Візантыі аказала значны ўплыў на развіццё протабеларускіх плямёнаў. Дзякуючы гэтай падзеі нашы продкі атрымалі магчымасць пазнаёміцца з багаццем антычнай і біблейскай культуры, што ў будучыні мела значны ўплыў на развіццё протабеларускай народнасці. Аднак, аналізуючы розныя публіцыстычныя матэрыялы, прысвечаныя гэтай, без перабольшвання важнай гістарычнай даце, складваецца ўражанне, што многія аўтары ці свядома, ці не, але робяць вельмі павярхоўны, аднабаковы і, асмелюся сказаць, некалькі тэндэнцыйны аналіз. Рыторыка некаторых артыкулаў прыпамінае не сур'ёзны, абгрунтаваны на гістарычны крыніцах і даследаваннях тэкст, а нейкую пэўнага кшталту ідэалагічную прапаганду, якая мае свае сучасныя мэты і заданні.**

■ **кс. Віталь Сідорка**, *гісторык*



### Падзел і еднасць

Першае, на што звяртаюць увагу многія аўтары, -- гэта выразны "праваслаўны" характар хрышчэння Русі, забываючыся, што гэты тэрмін у тым значэнні, якое яму надаём мы, сучаснікі, узнік значна пазней. Першапачаткова праваслаўе альбо інакш orthodoxia – гэта вызнаванне праўдзівага вучэння, згоднага з Божым Аб'яўленнем. Значна пазней, праз некалькі стагоддзяў, гэты тэрмін пачалі выкарыстоўваць для азначэння канфесійнага і дактрынальнага падзелу на ўсходняе (праваслаўе) і заходняе (каталіцтва) хрысціянства.

Новыя, сучасныя даследаванні гісторыкаў паказваюць, што хрысціянскі свет, нягледзячы на сумныя падзеі 1054 года, аж да XIII стагоддзя заставаўся адзіным. Так, напрыклад, першы крыжовы паход 1095 года быў арганізаваны супольнымі намаганнямі: Папам Рымскім Урбанам II і візантыйскага імператарам, які такім чынам хацеў не толькі вызваліць Святую Зямлю, але і аслабіць націск мусульман на ўсходнія граніцы Візантыі. Іншая справа, што больш позьнія крыжовыя паходы, захоп Канстанцінопаля і звязаныя з гэтым канфлікты прывялі да нарастання напружанасці паміж заходнімі і ўсходнімі хрысціянамі.

Варта заўважыць, што захаваліся ўспаміны пра больш позьнія кантакты прадстаўнікоў заходняга хрысціянства з беларускімі князямі, якія ўжо прынялі Хрыстова вучэнне з Візантыі. Так, місіянер Мэйнард, будучы біскуп Лівоніі, які прыбыў з Брэмена ў Полацк дзесьці каля 1184 года, атрымаў ад князя Уладзіміра не толькі дазвол на прапаведаванне сярод ліваў, але і багатыя дары.

### Балтыйскі след хрысціянства

Другім жа momantам, на які варта звярнуць увагу, з'яўляецца пэўнае свядомае спрашчэнне працэсу распаўсюджвання хрысціянства на славянскіх землях, што, у сваю чаргу, вядзе да скажоных і не зусім аб'ектыўных высноў адносна дадзенай тэмы. Сучасныя ж даследаванні сведчаць пра тое, што на пачатковым этапе хрысціянізацыя Русі адбывалася не пад уплывам толькі адной, пэўнага кшталту "эксклюзіўнай" традыцыі, але розных хрысціянскіх традыцый і культур.

Так, першае больш-менш вядомае пранікненне хрысціянства да ўсходніх славян многія даследчыкі звязваюць з дзейнасцю варагаў – выхадцаў з паўднёва-заходняга ўзбярэжжа Балтыйскага мора, якія, на думку некаторых заходніх гісторыкаў, прынялі хрысціянства ў Даніі альбо сярод палабска-паморскіх славянаў. Згодна з традыцыяй і меркаваннем даследчыкаў, першыя варажскія князі, напрыклад, Рурык, Аскольд і Дзір былі хрысціянамі. Двум апошнім прыпісваецца прынясенне хрысціянства ў Полацк.

### Хто хрысціў Рагнеду?

Праўдападобна, з варажскімі ўплывамі было звязана хрысціянства княгіні Вольгі, якая выйшла замуж за варажскага князя Ігара, а пасля яго смерці ўладарыла ў Кіеве. Вядома, што Вольга, будучы хрысціянкай, звярнулася да нямецкага караля Атона I з просьбай высвяціць для яе біскупа і святароў. Дзякуючы гэтай просьбе да Вольгі ў 961 годзе быў накіраваны біскуп Адальберт, які ўжо ў наступным годзе быў вымушаны вярнуцца. Пазней ён стаў першым арцыбіскупам Магдэбурга. З варажскімі ўплывамі звязваюць таксама магчымае прыняцце хрысціянства праз першага ўзгаданага ў летапісах полацкага князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды.

### Каталіцкі біскуп у Тураве

Між іншым, варта таксама згадаць яшчэ пра адзін шлях магчымага пранікнення хрысціянства на тэрыторыю сучаснай Беларусі – з Вялікай Маравіі. Існуе гіпотэза, што хрысціянства, якое прынеслі ў Маравію святыя Кірыл і Мятод, пранікала таксама і на паўднёва-беларускія землі.

Іншым жа сведчаннем аб невізантыйскім характары старажытнага хрысціянства ў Беларусі з'яўляецца місія ісландскага манаха Торвальда Вадроўніка, які ў 986 годзе прыбыў у Полацк і заснаваў там манастыр св. Яна Хрысціцеля. Акрамя таго, існуюць больш дакладныя, навукова абгрунтаваныя звесткі пра іншых хрысціянскіх місіянераў. Былі гэта біскуп Бруна з Кверфурта, які загінуў у 1009 годзе, а таксама Райнберг, былы біскуп Калабжэскі, які дзейнічаў у Тураве практычна ў тыя ж часы. Некаторыя даследчыкі лічаць, што прысутнасць у Тураве каталіцкага біскупа было сведчаннем свядомага выбару мясцовым князем сувязяў з лацінскім клірам.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, трэба адзначыць, што я знарок не закранаю ролю хрысціянства ў развіцці нацыянальнай самасвядомасці і дзяржаўнасці беларусаў. На маю думку, яна патрабуе асобнага, больш грунтоўнага аналізу. Сам жа працэс хрысціянізацыі сведчыць пра тое, што ад самых вытокаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі перасякаліся розныя хрысціянскія традыцыі і абрады. Гэта ў сваю чаргу перасцерагае нас, сучаснікаў, перад нейкай "элітарнасцю" і "выключнасцю" і заахвочвае да больш цярпімага стаўлення адно да аднаго.



Ірына Рубінава.

# Позірк Любові

**Можа, камусьці падасца дзіўным, але я да гэтае пары вельмі люблю катэхезы. Магчыма, таму, што я не атрымала рэлігійнай адукацыі ні ў дзяцінстве, ні ў маладосці. З ахвотаю хаджу я на ўсе катэхетычныя заняткі. Падчас аднае катэхезы Бог прамовіў да мяне так проста, так моцна, што я не забудуся пра гэта ніколі…**

■ **Ірына Рубінава**, *59 гадоў, Мінск*

…Гэта было гадоў сем таму, калі нашая парафія толькі-толькі пачынала гуртавацца ў адну сям'ю. Мы збіраліся тады на катэхезы на кватэрах парафіянаў. Аднаго разу сядзім за сталом, чалавек сем-восем дарослых людзей, горача абмяркоўваем з ксяндзом стварэнне свету, першародны грэх – першыя раздзелы Бібліі. Побач са мною сядзіць гаспадар, трымае на руках свайго дванаццацігадовага старэйшага сына, які мае сур'ёзную цэрэбральную паталогію: ён не размаўляе, не ходзіць, сам сябе абслугоўваць не можа… Тут у суседнім пакоі занадта голасна разгарэзіліся малыя дзеці, з якімі прыйшлі на заняткі маладыя бацькі. Гаспадар перадае мне свайго сына на рукі ды ідзе суцішыць дзяцей. Я адною рукою трымаю хворага хлопчыка, а другою энергічна махаю, працягваючы эмацыйна, ну, і канешне ж, вельмі "разумна" каментаваць Божае Слова.

Іраптам мой зрок падае на твар гэтага хлопчыка – і я трачу мову! Я забываюся на ўсе свае аргументы! Я забываюся пра стварэнне свету, пра Адама з Евою. Напэўна, я забываюся ўвогуле на ўсе словы на свеце! З гэтых вачэй на мяне глядзіць Бог! У мяне на руках сядзіць Езус! На мяне глядзіць сама Любоў! Я не магу словамі перадаць гэтага пагляду, але я не забудуся пра гэта ніколі. Нават мой муж у часе найбольшага нашага кахання не глядзеў на мяне з такім замілаваннем і пяшчотай, з такою прагаю мае любові! Я нават адчувала… сорам! Мне хацелася схаваць гэтую Любоў ад усіх вачэй як самае інтымнае пачуццё, якое ніхто не павінен бачыць. І ў той жа час я хацела, каб гэта бачылі ўсе-ўсе, бо саладзей за гэтую Любоў няма нічога на свеце…

…Я люблю гэтага хлопчыка, я часта сустракаю яго ў касцёле. Ён робіць мне вялікую ласку – пазнае мяне сярод многіх, ласкава рэагуе на дотыкі маіх рук. Я ведаю, што ён блізка-блізка ля Бога, бо Бог зрабіў з яго таго, каго людзі называюць «няпоўнаспраўным», самую даскаsuccessful прыладу сваёй Любові… І яшчэ я ведаю, што Бог, жывы і сапраўдны, зыходзячы на алтар, першым прыходзіць у сэрца гэтага хлопчыка, бо ў самы момант Перамянення Дароў ён пачынае спяваць радаснымі гукамі, як птушаня, ён умее славіць Бога без слоў.

# Шляхам св. Якуба,
## або Як беларус прайшоў 900 км у пілігрымцы

**У Беларусі даволі моцная традыцыя пілігрымак. Жыхары беларускіх гарадоў і вёсак ужо звыкліся з асобамі пілігрымаў, якія ўлетку ідуць у каталіцкія санктуарыы нашай Радзімы. Таму нам у рэдакцыі падалося, што чытачам "Весніка" будзе цікава даведацца пра замежную пілігрымку нашага земляка Юрыя Грыневіча ў Іспанію.**

**– Юрый, раскажыце, што сабой уяўляе пілігрымкавы шлях у Сант'яга-дэ-Кампастэла?**

– Сант'яга-дэ-Кампастэла – гэта горад у Іспаніі, дзе знаходзяцца рэліквіі св. апостала Якуба. Шлях туды ляжыць праз розныя мясцовасці ў Іспаніі. Мне давялося прайсці адным з самых папулярных маршрутаў з французскага Сэн-Жан-П'е-дэ-Пор праз Пірэнеі да Сант'ягадэ-Кампастэла. Гэта шлях даўжынёй прыкладна 900 км.

**– Як у Вас з'явілася натхненне туды пайсці?**

– Ведаеце, самае цікавае тое, што я дагэтуль ніколі не хадзіў у пілігрымкі. І нават цяжка ўяўляў сабе, што гэта такое. На мяне паўплываў фільм рэжысёра Эміліа Эстэвеса "Шлях". У ім распавядаецца пра тое, як амерыканец сталага веку прыязджае ў Сэн-Жан-П'е-дэ-Пор па цела свайго сына Дэніэля, які загінуў на Шляху св. Якуба.

**– Няўжо і такое здараецца ў паломніцтве?**

– Так, мне давялося бачыць помнікі тым пілігрымам, якія не дайшлі да Сант'яга. На некаторых, на жаль, стаяць даволі свежыя даты.

**– З чым гэта можа быць звязана?**

– Складаны сам пераход праз Пірэнеі. Я на сабе адчуў, што гэта такое. У першы ж дзень майго падарожжа перажыў сапраўднае выпрабаванне. Няспынна ішоў вялікі дождж, каторы пераходзіў у лівень. Я прамерз настолькі, што пачаў мімаволі думаць пра вяртанне назад.

**– Іспанія – гарачая краіна. Як Вы змагаліся з высокай тэмпературай?**

– Так, сапраўды, паветра там можа праграявацца да +50 градусаў. Таму я стараўся выходзіць дзесьці а 5 раніцы, таму што ўжо ў 10 гадзін гарачыня была каля 30 градусаў. Але не абышлося і без апёкаў. Гэта ўсё з-за недахопу вопыту.

**– Напэўна, і мазалі былі?**

– Якраз з мазалямі я не меў ніякіх праблем, таму што яшчэ перад выхадам сёетое даведаўся на інтэрнэтфорумах пра такога кшталту падарожжы. Таму пастараўся набыць сабе вельмі добры заплечнік і зручны абутак. Гэта ўратавала мяне ад страшных пакутаў. На свае вочы бачыў ногі іншых пілігрымаў, якія часам уяўлялі сабой суцэльны крывавы мазоль.

**– Юрый, а з якімі думкамі Вы пайшлі ў гэтую пілігрымку і як выглядаў Ваш дзень?**

– У мяне не было нейкіх інтэнцый да Бога. Я палічыў, што і так шмат у Яго прасіў ужо. Таму мая пілігрымка была пілігрымкай удзячнасці за тое дабро, якое я ўжо атрымаў ад Госпада. А на працягу шляху я маліўся, разважаў, ішоў моўчкі. Часам даводзілася цэлы дзень ісці з іншымі паломнікамі, з якімі перасякаўся на шляху. Мінімальнае веданне англійскай мовы дапамагала нам камунікаваць і добра праводзіць разам час. А наогул з 28-мі дзён у пілігрымцы большасць прайшла ў адасобленасці.

**– Вы згадалі пра іншых пілігрымаў. А можаце, хаця б прыблізна, сказаць, з якіх яны былі краін?**

– На Шляху св. Якуба вельмі шмат амерыканцаў. Я сустракаў пілігрымаў з Францыі, Румыніі, Аўстраліі, самой Іспаніі і нават Японіі. У гэтае паломніцтва ідуць у асноўным каталікі. Але бываюць і дзіўныя выключэнні. Ідуць таксама атэісты. Для іх гэта проста новыя ўражанні, цікавы паход.

**– У Беларусі пілігрымаў на начлег прымаюць вернікі парафій. А як гэтая справа арганізавана ў Іспаніі?**

– На самай справе інфраструктура для пілігрымаў арганізавана выдатна. Перад выхадам з Сэн-Жан-П'е-дэ-Пор я атрымаў спецыяльны пашпарт пілігрыма, які дазваляў мне начаваць у адмысловых гатэлях для пілігрымаў – альбергах. Гэта гатэлі, дзе ёсць цёплая вада, пральныя машыны, ложак і дах над галавой. У залежнасці ад таго, належыць гатэль да муніцыпальных уладаў ці з'яўляецца прыватнай уласнасцю, цана за начлег можа вагацца ад 5-10 еўра і вышэй. Акрамя таго, больш багатыя пілігрымы могуць карыстацца спецыяльным таксі, якое перавозіць асабістыя рэчы па пунктах начлегу. Але я сабе такога не дазваляў. Свой заплечнік заўсёды нёс сам. Што тычыцца трасы, то паўсюль стаяць знакі – жоўтыя стрэлачкі і белыя ракушкі – сімвалы пілігрымаў. Таму збіцца з дарогі немагчыма. Мапы, якія я падрыхтаваў загадзя, мне зусім не спатрэбіліся.

**– Юрый, магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча паўтарыць Ваш шлях. Раскажыце, на што варта звярнуць увагу падчас падрыхтоўкі?**

– Як я ўжо казаў, вельмі важна не пашкадаваць грошай на добры абутак і добры заплечнік. Вага напоўненага заплечніка павінна быць у межах 10-15 працэнтаў ад вагі пілігрыма. Калі нагрузіць больш, то гэта можа мець кепскія наступствы для здароўя. Перад выхадам у такі доўгі шлях варта папрактыкавацца ў хадзе на далёкія дыстанцыі і паўчыцца пераадольваць вялікія пад'ёмы і ўхілы. Гэта вельмі важна, таму што няправільная хадзьба можа прывесці да траўмы каленных суставаў. Што да грошай, то само прабыванне на Шляху св. Якуба мне каштавала 750 еўра, калі не лічыць даезду да Сэн-Жан-П'е-дэ-Пор.

**– Які адрэзак шляху быў самым цяжкім для Вас?**

– Участак за 150 км ад іспанскага горада Леона. Справа ў тым, што гэты адрэзак даволі бязлюдны і манатонны. Такая пустэча. Паўсюль аднолькавы краявід: палі, раўніны і рэдкія дрэўцы. Плюс жудасная гарачыня і самотнасць. Гэта было сапраўды цяжка.

**– Ці хацелі б паўтарыць гэты шлях?**

– Адназначна, так. Нягледзячы на сумневы падчас шляху, нягледзячы на боль ва ўсім целе ад хадзьбы і апёкаў, я хачу прайсці гэтае паломніцтва ізноў.

**– Тады жадаем Вам Божага бласлаўлення на ўсіх Вашых жыццёвых шляхах. Дзякуй за размову!**

– Дзякуй і Вам.

*Гутарыў*
***кс. Віктар Місевіч***

**Больш фотаздымкаў з пілігрымкі Юрыя Грыневіча глядзіце на сайце Catholicnews.by**




**На здымку:** Юрый Грыневіч *(трэці злева)* з пілігрымамі.



Шлях святога Якуба праходзіць праз маляўнічыя краявіды.

# Залікі, малітва, падполле: успаміны пра катэхезу

**Хутка пачнецца новы навучальны год. Дзеці пойдуць у школу, а таксама на заняткі па рэлігіі. Таму сёння чытачы падзеляцца з "Каталіцкім Веснікам" сваімі яскравымі ўспамінамі пра катэхезу.**



**Ірына Губская:**

– Яшчэ з малых гадоў мая бабуля, Ганна Пачкоўская, распавядала нам, малым, пра тое, як адбывалася катэхеза ў савецкія часы. Найбліжэйшы дзейны касцёл быў у Глыбокім, парафіяльны, у Мосары, адчыняў свае дзверы толькі на вялікія святы – Каляды, Вялікдзень, парафіяльны адпуст, які ў нас адзначаецца 24 чэрвеня на ўрачыстасць Яна Хрысціцеля. Натуральна, што ніякіх арганізаваных катэхезаў у той час не было, прынамсі, у такіх маленькіх мясцовасцях, як наша. Да першай камуніі шмат гадоў мая бабуля рыхтавала сваіх дзяцей, пляменнікаў ды проста аднавяскоўцаў сама: збіраліся нават групкі па 6-8 дзяцей. Вучылі асноўныя малітвы, праўды веры па старых польскіх малітоўніках.

Бабуля дыктавала тэксты малітваў, а дзеці запісвалі іх на слых так, як чулі: сама бабуля польскую ведала не вельмі добра, а тым больш малыя дзеці. Таму ў завучаных без разумення малітвах часта адно слова разбівалася на два, два зліпаліся ў адно, не кажучы ўжо пра сказы. Дзеці з цяжкасцю маглі разабраць словы, а тым больш зразумець іх сэнс, таму важным было, па-першае, заахвоціць вывучыць на памяць не вельмі зразумелы тэкст, а па-другое, на плечы катэхізатара клалася нялёгкая задача патлумачыць тэксты малітваў, праўдаў веры, Божых і касцельных загадаў і інш.

Вучыліся вечарамі, каб асабліва "не свяціцца", бо розных людзей хапала: маглі і данесці, а тады непрыемнасцяў не абярэшся, ды і дзяцей па галоўцы не пагладзяць у школе. Калі малітвы былі вывучаныя, бабуля везла дзяцей на Першую Камунію ў Глыбоцкі касцёл, дзе ў захрыстыі святар праводзіў «экзамен». Пасля праэкзаменаваныя спавядаліся ўпершыню ў жыцці ў канфесіянале, дадаючы: «Прыступаю да споведзі ў першы раз», а пасля ў агульнай чарзе прымалі першую ў жыцці Камунію. Сярод вернікаў першакамуніянтаў вылучалі толькі белыя сукенкі, вяночкі ў дзяўчат ды святочныя касцюмы хлопцаў.

Таксама ж бабуля рыхтавала моладзь да бежмавання ды маладыя пары да шлюбу. Нейкай спецыяльнай адукацыі ў катэхізатара тады не было, і тыя рэлігійныя веды і вера перадаваліся з пачутага падчас Святой Імшы ў касцёле, прачытанага ў старых малітоўніках ды глыбокай веры, якую, нягледзячы ні на што, не ўдалося выкараніць бязбожным уладам. Пазней, калі мне было ўжо 6 год і да нас у парафію прыехаў клерык Андрэй Сіповіч, абвясцілі, што збіраецца групка дзяцей да Першай Камуніі. Бабуля першая збірала дзяцей і моладзь, каб, пакуль касцёл яшчэ не зачынілі, паспелі прыняць Святую Камунію ў святочнай атмасферы. А калі ў парафіі пачалі працаваць сёстры-эўхарысткі, было бачна, што касцельнае жыццё пашыраецца. Бабуля ўсё роўна актыўна ўдзельнічала ў катэхізацыі дзяцей і моладзі, часта катэхезы адбываліся ў яе дома, падчас падрыхтоўкі святаў, пілігрымак бабуля была першым памагатым.

Тры гады таму бабуля адышла ў вечнасць, і цяпер катэхізацыя, якую яна праводзіла, жыве ва ўспамінах тых, каго яна падрыхтавала да прыняцця святых сакрамантаў і ў нашых дзіцячых успамінах.



**Кл. Аляксей Цвячкоўскі:**

– Першы раз я трапіў на заняткі па рэлігіі ў 2003 годзе, калі мне было восем гадоў. Памятаю, што хадзіў на іх кожны тыдзень. Разам са мною хадзіла шмат дзяцей. Нас было дзве групы. Падрыхтоўка да Першай Камуніі працягвалася два гады. Мы вучылі асноўныя малітвы: «Ойча наш», «Вітай, Марыя», «Веру ў Бога», «Хвала Айцу». Актыўна вывучалі катэхізіс і чыталі Божае слова. Памятаю, што амаль пасля кожных заняткаў катэхетка рабіла нам залікі, каб праверыць, ці ўважліва мы яе слухалі. Вучыцца было цікава, таму я не прапускаў заняткаў. А потым настаў той асаблівы дзень, калі я прымаў святую Камунію. Вельмі добра памятаю гэты момант. Я быў вельмі шчаслівы таму, што прыняў самога Хрыста ў сваё сэрца. Цяпер гэтыя веды, якія я набыў на катэхезе, дапамагаюць мне ў маім жыцці ісці за Хрыстом і наследаваць Яго.



**Андрэй Дзюрдзь:**

– На катэхезу я пачаў хадзіць з першага класа. Памятаю, як мы першы раз прыйшлі на плябанію. У невялічкую залу ўвайшоў кс. Лешак і навучыў нас спяваць нейкую простую песеньку. Яшчэ дакладна памятаю, як мяне моцна ўразіў аповед ксяндза пра дом, пабудаваны на пяску. Увогуле, мы любілі хадзіць на катэхезу да ксяндза Лешака, бо кожны раз ён расказваў нешта новае і цікавае. Найбольш яскравых момантаў было падчас падрыхтоўкі да Першай Камуніі. Тады намі займалася сястра Хрыстэля. Цяжкавата было з намі, але яна мела даволі многа цярпення, і таму ўсё ў нас атрымалася. Памятаю, як усе мы вельмі хваляваліся перад першай споведдзю, але сястра тады падышла да нас і знайшла словы, пасля якіх гэтае хваляванне амаль прапала.

Некалькі гадоў да нас летам прыязджала сястра Тэрэса з Італіі і вучыла нас вышываць. Нават старэйшыя хлопцы прыходзілі. Вучыла нас і малітвам на італьянскай мове. Гэта таксама была своеасаблівая катэхеза.

У 9 класе заняткі па рэлігіі праводзіў клерык з Гродзенскай семінарыі. Нам вельмі падабалася размаўляць з ім аб нейкіх важных праблемах нароўных, як са сваім аднагодкам. Ужо ў старэйшых класах катэхезу ў нас вёў ксёндз Ян. Размовы з ім былі вельмі плённымі і цікавымі, бо яны суправаджаліся рознымі жыццёвымі прыкладамі. Менавіта ён і падрыхтаваў нас да сапраўднага дарослага жыцця. Увогуле, заняткі па рэлігіі аказаліся для нас вельмі карыснымі і, напэўна, адыгралі вялікую ролю ў станаўленні мяне і маіх сяброў як асоб, як сапраўдных католікаў.

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Кс. Валерый Марціноўскі:**

– На катэхізацыю я пайшоў, калі меў 7 год. У Мёрскай парафіі, з якой я паходжу, заняткі па рэлігіі праводзяць свецкія асобы. Таму я таксама пазнаваў праўды веры пры дапамозе сп. Наталлі. Аднойчы кс. пробашч Уладас Пятрайціс нам, малым міністрантам, кажа: «Ваша настаўніца ідзе замуж». Я быў перакананы, што ён кажа пра школьную. Бо на той час я лічыў, што справамі Бога сур'ёзна могуць займацца толькі тыя асобы, якія выключна прысвячаюць сваё жыццё Яму: святары, манахіні, катэхеткі... Гэта быў мой першы «шок» веры: аказваецца, кожны вернік на моцы ласкі сакраманту хросту пакліканы абвяшчаць Хрыста – ці то жывучы ў цэлібаце, ці ў сужэнстве, ці ў самоце. Другі значны эпізод з вопыту катэхезы – гэта мой экзамен, які прымаў сам пробашч. А тады ў занятках удзельнічала 30 - 40 чалавек. І вось, калі прыйшла мая чарга, пробашч Пятрайціс, убачыўшы мяне, з усмешкай сказаў: «Гэты ніводнага разу не прапусціў, заўсёды рыхтуецца і старанны». І пасля бадзёра прамовіў канчатковае «дапушчаны». Так я даведаўся, што шэрая штодзённая праца дае ўрэшце самыя добрыя вынікі.



**Інэса Смалонская:**

– Пра заняткі па рэлігіі ў мяне засталіся самыя лепшыя ўспаміны! Нам сапраўды пашанцавала з катэхетамі. Спачатку заняткі выкладалі сёстры- эўхарысткі. Тады мы былі вельмі малыя. Памятаю, як малявалі, майстравалі ружанцы, расказвалі, што нам запомнілася з казання на Імшы. На гэтыя заняткі хадзілі з цікавасцю, бо сёстры заўсёды нешта прыдумвалі для нас. Потым у нас з'явілася Ліля. Самая лепшая катэхетка! Яна столькі цікавага распавядала, паказвала, як у жыцці патрэбна і можна быць сапраўдным католікам. Мы глядзелі розныя фільмы. Потым разважалі над імі, над музыкай, над кнігамі. Гэта была не проста тэорыя. Гэта быў падмурак на ўсё жыццё. Нам вельмі пашанцавала. Дзякуй усім тым, праз каго мы пазналі Божае слова...

# СЕКСУАЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ Ў СЯМ'І

**У сучасным, поўным пошасці свеце сям'я з'яўляецца фактычна адзіным асяродкам, дзе дзіця ці падлетак можа атрымаць адэкватную інфармацыю аб сексуальнасці і сексе. Гэтая інфармацыя, а таксама прыклад бацькоў, становяцца ўзаемазвязанымі часткамі палавога выхавання.**

**Наталля Станкевіч**, *псіхолаг*

**Два этапы палавога выхавання:**

***Да трох гадоў***

У гэтым узросце задача бацькоў – навучыць дзіцятка паводзіць сябе адпаведна са сваім полам. Таму:

1. Для дзяўчынкі мама з'яўляецца прыкладам жаноцкасці – як знешняй (вопратка, стыль паводзінаў), так і ўнутранай (выхаванне жаноцкіх якасцяў – дабрыні, мяккасці, чуласці і г.д.). Тата – «першы мужчына» для дачушкі. Яна – ягоная «прынцэса», ён першы, хто ацэньвае яе ў яе жаноцкасці, падкрэслівае яе каштоўнасць менавіта як дзяўчынкі.

2. Для хлопчыка: тата – узор мужнасці. Ён паказвае прыклад, што значыць быць мужчынам. Мама для хлопчыка становіцца «першай жанчынай», у дачыненні да якой ён можа праяўляць сваю мужнасць: саступаць месца ў транспарце, дапамагаць нешта паднесці і г.д. Пакуль хлопчык маленькі, гэтыя дзеі будуць чыста сімвалічнымі, але яны неабходныя для таго, каб хлопчык засвойваў мужчынскую ролю.

**Мама для хлопчыка становіцца «першай жанчынай», у дачыненні да якой ён можа праяўляць сваю мужнасць**

У гэтым узросце дзеці часта цікавяцца тым, адкуль яны ўзяліся. Лепей за ўсё сказаць праўду, што дзіцятка з'явілася з мамінага жывоціка. А туды яно патрапіла, таму што «тата вельмі любіць маму, і таму Бог даў нам такога цудоўнага хлопчыка (цудоўную дзяўчынку)».

***Падлеткавы ўзрост***

Палавое сталенне – адзін з самых далікатных бакоў развіцця чалавека ў падлеткавы перыяд. Часам бацькі саромеюцца размаўляць з падлеткам аб гэтым працэсе і тым, што з ім звязана: сексе, мастурбацыі, магчымасці цяжарнасці, палавых інфекцыях, адказных паводзінах. Таму часам яны імкнуцца зрабіць выгляд, што ў іх сям'і сексуальных адносінаў няма наогул. Тэма сексуальнасці замоўчваецца, і з гэтага падлетак робіць высноўу, што толькі грэшныя, дрэнныя людзі маюць сексуальныя жаданні. Але ў пэўным узросце тыя самыя жаданні навальваюцца на яго самога і правакуюць пачуцці сораму, віны, грахоўнасці, навязлівыя страхі пекла, адзіноту, страх раскрыцця, страх і пазбяганне споведзі і г.д.

**Дарослы падыход да сексуальнасці можа ўключаць наступныя элементы:**

1. Сексуальнасць і сексуальныя зносіны – гэта вялікі і прыгожы дар, які двое дарослых людзей могуць прынесці адно аднаму. Гэта акт аддання сябе іншаму, праява даверу і любові.

2. Сексуальныя адносіны набываюць вышэйапісаную прыгажосць і чыстасць ТОЛЬКІ ў межах сужэнства, асвечанага Богам.

3. Сексуальная сфера ў чалавека вельмі далікатная. Спакусам у гэтай сферы вельмі цяжка супрацьстаяць, бо яны знаходзяць моцны водгук у нашым целе. Таму важна імкнуцца пазбягаць тут нагоды да граху.

4. Нават калі ў падлетка здарыўся грэх супраць шостай і дзевятай запаведзяў, гэта не значыць, што Бог пазбавіў яго сваёй любові! А раз сам Бог не адвярнуўся ад яго – не варта гэтага рабіць і нам. Нашае прынце і любоў да дзіцяці будзе тым падмуркам, на якім яно зможа паўстаць з граху.

**Хто павінен размаўляць з падлеткам аб сексуальнасці?**

Найлепшы варыянт: з хлопцам – бацька, з дзяўчынай – маці. Калі ў сям'і няма бацькі, маці можа папрасіць аб размове іншага дарослага мужчыну, якому давярае і яна, і дзіця. Сітуацыя, калі маці размаўляе з сынам, – найменш спрыяльная, але, калі іначай не атрымліваецца, усё роўна лепей гаварыць аб гэтым, чым абысці праблему маўчаннем.

**Сітуацыя, калі маці размаўляе з сынам пра сексуальнасць, – найменш спрыяльная**

**Як і аб чым канкрэтна размаўляць?**

А) Станаўленне хлопцам (дзяўчынай) – гэта працэс, які ахоплівае болей пытанняў, чым непасрэдна сексуальныя зносіны. Дзіцяці ў раннім падлеткавым узросце важна патлумачыць, якія змены адбываюцца ў ягоным целе. Важна, напрыклад, расказаць дзяўчынцы аб месячных, падкрэсліўшы, што гэта нармальна, гэта пачатак пераўтварэння яе ў дзяўчыну.



**Калі, напрыклад, вы баіцеся, што дзяўчынка з-за нейкай ракавой памылкі зацяжарыць, скажыце пра гэты свой страх!**

Б) Тэмы сексуальных зносінаў таксама важна не абмінаць, і размаўляць аб гэтым варта шчыра, але і не «размалёўваючы» ўсіх фізіялагічных падрабязнасцяў. Значна больш важным будзе, калі вы раскажаце свайму дзіцяці аб сваіх пачуццях, звязаных з ягоным сталеннем, аб сваіх страхах і надзеях. Калі, напрыклад, вы баіцеся, што дзяўчынка з-за нейкай ракавой памылкі зацяжарыць, скажыце пра гэты свой страх!

В) У сем'ях вернікаў размова аб сексуальнасці не можа абмінуць тэму Божых запаведзяў. Менавіта яны з'яўляюцца адказам на шматлікія пытанні кшталту «чаму нельга?» Варта патлумачыць дзіцяці, што ўсе абмежаванні Бог увёў не для таго, каб ускладніць нам жыццё, а толькі дзеля бязмежнай любові да нас.

Г) Найважнейшым спосабам выхавання дзіцяці з'яўляецца прыклад бацькоў. Вашыя словы, такім чынам, не павінны разыходзіцца з тым, як вы самі жывяце.

Найбольш распаўсюджаным сексуальным грахом сярод падлеткаў з'яўляецца мастурбацыя (ананізм). Мне падаецца, што да мастурбацыі бацькам варта сфарміраваць усё той жа здаровы, дарослы падыход, які выключае як занадта мяккую пазіцыю, так і істэрыку вакол гэтай праблемы.

**Гэты падыход мог бы ўключаць такія элементы:**

1. Трэба памятаць, што Касцёл лічыць мастурбацыю грахом, і таму менавіта як грэх яна павінна быць прадстаўлена ў размове з падлеткам.

2. З іншага боку, бацькам (і падлеткам таксама!) варта ведаць, што навязлівая мастурбацыя з'яўляецца сімптомам псіхалагічнай няўтульнасці чалавека. Калі падлетак часта займаецца гэтым, то, верагодна, у яго існуюць унутраныя крыніцы трывогі, страху, няўпэўненасці ў сабе ці іншыя непрыемныя, цяжкія эмоцыі, якія ён не можа "разрадзіць" іншымі спосабамі, напрыклад, праз шчырую, даверлівую размову з бацькамі. Таму саромец ці караць падлетка з мэтаю прымусіць яго спыніць заняткі мастурбацыяй катэгарычна нельга.

3. Ніякі грэх, у тым ліку і мастурбацыя, не можа адкінуць чалавека ад Божай любові. Таму нашай задачай з'яўляецца дапамагчы чалавеку не страціць апоры прынцыя і любові, на якой ён мог бы зноў і зноў уставаць.

Сексуальнае выхаванне, такім чынам, з'яўляецца адным з бакоў узаемаадносінаў паміж дзецьмі і бацькамі. Закранаючы вельмі тонкія і далікатныя пытанні, яно патрабуе найперш ад дарослых вытрымкі, шчырага імкнення зразумець сваё дзіця і ў выпадку патрэбы дапамагчы яму, вымагае чуласці, адкрытасці і шчырасці. Напэўна, можна сказаць, што выхаванне ў сферы сексуальнасці і інтымнасці – адзін з самых складаных кампанентаў выхаваўчага працэсу. У той жа час яно мае вынікі, значэнне якіх складана перабольшыць: ад фармавання слушнай пазіцыі чалавека ў гэтай сферы залежыць ягонае сямейнае і асабістае шчасце, а таксама ягоная маральнасць і духоўнасць. Таму можна з упэўненасцю казаць, што намаганні, прыкладзеныя бацькамі да выхавання дзяцей у гэтых пытаннях, прынясуць плён «у сто разоў больш».

**Аб аўтары.** Наталля Станкевіч. Нарадзілася ў 1984 г. у Мінску. У 2007 г. скончыла факультэт міжнародных адносін БДУ і паступіла ў аспірантуру на факультэт філасофіі і сацыяльных навук. У 2012 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па сацыяльнай філасофіі. У 2011–2012 гг. прайшла прафесійную перападрыхтоўку ў Маскоўскім інстытуце псіхааналізу па праграме «Асновы псіхааналізу». Працуе псіхолагам-кансультантам, распрацоўвае і праводзіць трэнінгі для сем'яў і моладзі. Замужам, мае дачку Тэрэзу.

***Ад рэдакцыі.** Дарагія чытачы, Вы можаце дасылаць у рэдакцыю пытанні, звязаныя з выхаваннем дзяцей, ці наогул па любой тэме ў псіхалогіі. У наступных нумарах мы надрукуем адказы псіхолага Наталлі Станкевіч.*

*З пошты рэдакцыі* **Чашнікі**

# Бог – гэта Любоў

**Хвала Хрысту!**

Заўсёды з захапленнем і вялікай цікавасцю чытаем усе артыкулы газеты "Каталіцкі Веснік" – гэтай добрай весткі ў кожным доме. Жадаем і надалей усім супрацоўнікам газеты добрага здароўя. Хай на вялікую плённую працу натхняе вас Дух Святы!

Бог – гэта Любоў. Ён вельмі любіць нас, сваіх дзяцей. На жыццёвым шляху Бог дае людзей, якія тым або іншым чынам уплываюць на нашае жыццё, змяняюць наш лад існавання. Мы, вернікі парафіі Перамянення Панскага ў горадзе Чашнікі, вельмі рады, што такога духоўнага апекуна прызначыў нам Бог. Шчыра ўдзячныя кс. Анджэю Бульчаку за тое, што прыехаў да нас здалёку і самаадданна служыць Богу і парафіянам. Сеяць добрае, мудрае, вечнае – гэта бясцэнны святарскі дар. Кожная сустрэча з кс. Анджэем – гэта свята веры і любові, дабрыні і міласэрнасці, павагі і ўвагі. Ён атуліў пастаяннай апекай сваіх парафіянаў, узрушыў іх сэрцы. Яго жывыя словы кранаюць душы, падтрымліваюць і напаўняюць чалавечай годнасцю.

А колькі добрых спраў, учынкаў міласэрнасці здзяйсняе наш святар: планаванне і арганізацыя змястоўных паходаў, паездак па святых мясцінах Беларусі, Літвы, Польшчы і іншых краін, прыём пілігрымаў, неабходная дапамога ветэранам, дзецям-сіротам з чашніцкага прытулка. Усяго немагчыма пералічыць.

28 чэрвеня кс. Анджэй адзначыў свой юбілейны дзень нараджэння. З гэтай нагоды мы яго сардэчна віншуем! Паважаны наш кс. Анджэй, прыміце вялікую падзяку за Вашу нястомную працу, самаахвярнасць і Ваша добрае сэрца. Вы сапраўды сталі духоўным настаўнікам кожнаму з нас. Мы ўдзячныя Пану Богу за ласку спаткання з Вамі. Дзякуем таксама, кс. Анджэй, за матэрыяльны і працоўны ўклад у будаўніцтва новага цудоўнага касцёла ў Чашніках. Колькі часу, сіл, здароўя і сродкаў было аддадзена Вамі дзеля яго ўзвядзення, ведае толькі Бог! Але які прыгожы і ўтульны атрымаўся наш новы касцёл! Нізкі паклон Вам, шаноўны кс. Анджэй Бульчак! Шчыра зычым шчодрых Божых дароў для Вас!

*Вы принесли с собой столько добра!*
*Пусть в душе разливается свет,*
*Не кончается счастья пора!*
*Только радости и теплоты*
*Мы желаем Вам от души.*
*Озарённых улыбками дней!*
*Пусть все планы, желанья, мечты*
*Претворятся в реальность скорей.*
*Желаем солнца и тепла*
*На каждый день и час,*
*Чтоб жизнь прекрасною была*
*и радовала Вас!*

***Са шчырай павагай і вялікай удзячнасцю,***

***вернікі парафіі г. Чашнікі***

# Як выбраць імя дзіцяці?

**Не сакрэт, што імёны, якія маюць людзі, вельмі моцна ўплываюць на іх характар. Даследаванні псіхолагаў сведчаць, што кожнае імя абуджае ў нашай свядомасці нейкія параўнанні, асацыяцыі і стэрэатыпы. Яны, у сваю чаргу, у многім абумоўліваюць стаўленне да асобы, асабліва, калі яна нам малазнаёмая. Сугучнасць імя з нейкай назвай або героем фільмаў адразу малюе ў свядомасці падабенства паміж носьбітам імя і вобразам у нашай свядомасці.**

**■ кс. Андрэй Рылка**



**Навошта звязваць імя свайго дзіцяці з сумніўным "героем"?**

### Імёны старажытнасці

Пра моц, якую нясе ў сабе імя, добра ведалі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Нашыя продкі выдатна разумелі, што ў гучанні і сімволіцы імені хаваецца велізарная псіхалагічная і духоўная моц уздзеяння – негатыўная або пазітыўная. Таму пры выбары імя для нованароджанага дзіцяці нават па сённяшні дзень многія бацькі адчуваюць, што ў пэўнай ступені передвызначаюць лёс свайго нашчадка. Як людзі будуць успрымаць беларускае дзіця з імем "Іван", "Тадэвуш", "Яна" або "Мілагрэс"? Гучыць слова, а ў свядомасці ўжо абуджаюцца нейкія здагадкі: што за асоба хаваецца за пачутым імем?

Хрысціяне ад самага пачатку існавання Касцёла добра ўсведамлялі, што імя можа набліжаць чалавека да Бога, нагадваць пра Яго ці пра любую Яму і вернікам святую асобу. Таму не дзіўна, што найбольш імёнаў хрысціяне ўзялі з Біблііі, прывязваючыся да вялікай гісторыі Збаўлення чалавецтва. Біблійныя імёны кожны народ крыху перайначваў, каб натуральна гучала на яго роднай мове. Так, у беларускай мове па сённяшні дзень мы маем такія біблійныя імёны, як "Марыя", "Ганна", "Адам", "Міхал", "Пётр", "Альжбета" (Елізавета), "Тадэвуш" (Фадзей), "Мацвей" (Мацей), "Марк", "Павел", "Ян" (Іван), "Сымон" (Сямён), "Ева", "Якуб" (Якаў) і інш.

**...у беларускай мове па сённяшні дзень мы маем такія біблійныя імёны, як "Марыя", "Ганна", "Адам", "Міхал"...**

### Наказ маці

Казала мне маці ў дзяцінстве:
"Дачушка, не ідзі ў лес адна,
Бо лёгка дарогу там страціць,
І будзеш блукаць дацямна.

А калі і здарыцца такое, –
Надзеі ўсё ж не губляй,
Глядзі тады ў неба на сонца,
Па сонцу дарогу шукай".

Мінулі гады, праблісьнулі
Ружоваю фарбай здаля,
І жыцця дарога з дзяцінства
У сталасць даўно прывяла.

Здаецца, час сілы набрацца,
Здаецца, расці б і мужаць.
Стамілася хутка і пытаю:
"Матуля, дзе сілы мне ўзяць?"

Здумелася, глянула ў вочы,
Як быццам чакала адказ.
Пасля, на абраз паглядзеўшы,
Гаворыць матуля наказ:

"Ой, не дадуць табе сілы
Ні гонар, ні пыха, ні грош.
У Госпадзе ўся наша сіла.
Ён толькі наш Бацька і лёс.

Не дасць заблукаці ў дарозе,
Якой бы цяжкой ні была.
Трымайся наказаў Гасподніх –
Не будзеш блукаць дацямна".

*Марыя Кедык*, *г. Ліда*

### Заступніцтва апекуноў

Па меры распаўсюджвання хрысціянства стала папулярным надаваць дзецям імёны хрысціянскіх волатаў духу – святых мучанікаў, якія з неверагоднай мужнасцю да апошняга дыхання засталіся вернымі Хрысту і з Неба ўзмацняюць іншых. З гэтай катэгорыі імёнаў мы маем такія, як, напрыклад, "Агнешка", "Карына", "Таццяна", "Валянцін", "Юрый", "Вераніка". Пазней эпоха Сярэднявечча нарадзіла вялікіх каталіцкіх святых, імёны якіх адразу сталі рэкорднымі па папулярнасці ва ўсім свеце. Бо кожныя бацькі-вернікі хацелі, каб іх дзіцё мела вялікага святога заступніка перад Богам, які, напэўна, праўдзе свайго аднайменца праз усе нягоды Божым шляхам да Неба. Так мы маем "Антоніяў", "Францішкаў", "Дамінікаў", "Тэрэзаў", "Казіміраў" і інш.

Ад Сярэднявечча, калі Касцёл меў ужо шматлікіх і слаўных святых, стала добрай хрысціянскай традыцыяй выбіраць дзіцяці імя кагосьці са святых. Вялікай дапамогай у гэтым сталі календары, у якіх былі распісаныя імёны святых паводле іх літургічнага ўспаміну ў Касцёле. У многіх мясцовасцях узнікла нават перакананне, што неабходна называць дзіця так, як завуць святога, успамін якога прыпадае на дзень нараджэння немаўляці.

Аднак у Касцёле замацаваўся звычай выбіраць такое імя дзіцяці, якое меў хтосьці са святых. Такім чынам, разам з наданнем імя дзіцяці, бацькі выбіраюць яму святога заступніка, якога просяць аб асаблівай апецы.

### Традыцыя і пераслед

У часы пераследу Касцёла захопнікі часта імкнуліся перайначваць хрысціянскія або выразна каталіцкія імёны, каб такім чынам знішчыць самасвядомасць вернікаў. Пра падобныя дзеянні ў глыбокай стражытнасці нямала распавядае Біблія (напрыклад, аповед пра жыццё прарока Даніэля ў Старым Запавеце). У бліжэйшыя да нас часы – царскіх або савецкіх пераследаў – часта пад ціскам русіфікацыі або камуністычнай ідэалогіі многія католікі Беларусі пачалі надаваць сваім дзецям імёны нетыповыя для каталіцкай традыцыі. Найгорш было тады, калі са страху перад пераследам бацькі перапісвалі "каталіцкія" імёны дзяцей паводле палітычнай кан'юнктуры. Так "Тэрэза" станавілася "Таісай" або "Таццянай", "Генрых" – "Генадзем", "Ян" – "Іванам", а "Казіміра" – "Кацярынай".

У постсавецкія часы гэтыя асобы мелі нямала клопату з тым, каб вярнуцца да свайго сапраўднага хрысціянскага або арыгінальна "каталіцкага" імя.

Прадстаўнікі антыхрысціянскіх ідэалогій імкнуцца навязаць вернікам імёны, якія ўзыходзяць не да святых, а да язычніцкіх герояў антычнасці, язычніцкіх багоў або ідалаў сучаснасці. У Савецкім Саюзе штучна ствараліся імёны, якія ўвасаблялі камунізм і яго герояў. Так паявіліся імёны кшталту "Наябрына", "Трактарына", "Зара", "Владлен", "Гектар", "Аўрора" і да т. п. Як жа прыкра носьбітам такіх імён жыць з усведамленнем, што яны сталі закладнікамі недарэчных ідэалагічных гульняў.

У сваю чаргу, хрысціянам неабходна разумець, якое велізарнае багацце захоўвае іх спадчына імёнаў. Варта нам, сучасным вернікам, адраджаць добрыя традыцыі. Варта пры выбары імені для дзіцяці не паддавацца на маніпуляцыі ідэалогій. Навошта звязваць імя свайго дзіцяці з сумніўным "героем", модай або язычніцкім імем нейкага дэмана? Можа, наадварот, трэба паклапаціцца аб тым, каб нашыя сыны і дочкі ганарыліся не толькі мілагучнасцю свайго імя, але і яго значэннем, наяўнасцю слаўнага заступніка ў Небе. З ім гэтае дзіцё будзе спачатку падзяляць імя. А пасля, пазнаёміўшыся бліжэй са святымі аднайменнікамі, напэўна, яно будзе мець стасункі з імі і ў Небе.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 жніўня 2013 г. Лк 13, 22–30**

"Хто будзе збаўлены?" – і мы, бывае, пытаем сёння. У свеце столькі цярпення, несправядлівасці. Нашыя тэлевізары перапоўнены гвалтам у жывым эфіры. Зло крыклівае. Яно бачна паўсюль. А дыбрыня і міласэрнасць пакорныя. Таму што яны з любові паходзяць. Езус заахвочвае нас ісці вузкай сцяжынай. Яна поўная выпрабаванняў. Але толькі так можна збавіцца.

*– Ці стараюся ўзмацняць сваю веру?*

*- Ці дапамагаю бліжнім перамагаць сумневы?*

*– Што раблю для таго, каб у свеце было больш дабрыні?*

*– Ці з'яўляюцца мае адносіны ў сям'і прыкладам для іншых?*

*– Ці не ганаруся сваімі духоўнымі дасягненнямі?*

**1 верасня 2013 г. Лк 14, 1. 7–14**

Трапіць у ганарлівасць можна незаўважна. Езус перасцерагае нас перад гэтым. Адначасова нам неабходна памятаць, што Бог ведае ўсё. Ён абавязкова нас узнагародзіць за дабро, нават калі людзі пра гэта забудуць. Сённяшнімі вачыма мы не можам бачыць, чым ёсць вечная ўзнагарода ў небе. Нам цяжка нават уявіць сабе гэта. Але тыя, хто даверыўся Богу, напэўна будуць шчаслівымі вечна.

*– Ці ветлівы я з іншымі?*

*– Ці стараюся ўлагоджваць канфлікты?*

*– Ці стрымліваю сваю агрэсію?*

*– Ці з пашанай стаўлюся да хворых і калекаў?*

*– Ці дапамагаю тым, хто пакінуты людзьмі?*

**8 верасня 2013 г. Лк 14, 25–33**

Бог не патрабуе, каб мы ненавідзелі сваіх родных. Ён толькі хоча, каб Ён быў на першым месцы ў нашым жыцці. Чаму? Таму што Ён – крыніца нашага існавання і шчасця. Без Бога чалавек апынаецца ў пустэчы і гіне. З Богам ён можам дасягнуць найвялікшых вышыняў развіцця і дасканаласці.

*– Як часта я хаджу ў касцёл?*

*– Ці не занядбоўваю сакрамант споведзі?*

*– Як часта я чытаю Св. Пісанне?*

*– Ці хачу быць вучнем Хрыста?*

*– Ці дапамагаю Езусу несці крыж?*

**15 верасня 2013 г. Лк 15, 1–10**

Езус дае шанец кожнаму. Ён жадае знайсці самую загубленую авечку. Можа быць і так, што гэтая авечка – я. Тады трэба прыслухацца да Божага голасу. Езус кліча. Трэба вярнуцца. Таму што ў гушчары і цемры могуць быць драпежныя звяры.

*– Ці ацэньваю сваё жыццё, робячы рахунак сумлення?*

*– Ці працую духоўна над сабой?*

*– Ці не замінае мне навакольны свет сустракацца з Езусам?*

*– Ці адчуваю прагу сустрэчы з Богам?*

*– Калі апошні раз я быў у споведзі?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Віктар Місевіч**

# Каталіцкая моладзь сустрэлася ў Браславе

**У Браславе 15-17 жніўня прайшла VIII Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі пад назвай "У сэрцы Касцёла!" Арганізатары падлічылі, што на спатканне прыехала каля 240 чалавек пераважна з Віцебскай дыяцэзіі. Былі таксама прадстаўнікі з іншых беларускіх дыяцэзій, а таксама з Санкт-Пецярбурга.**

■ **с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

На працягу гэтых дзён маладыя людзі прымалі ўдзел у канферэнцыях, працавалі ў групах, ладзілі канцэрты, танцы, а самае галоўнае – удзельнічалі ў супольнай Эўхарыстыі.

Вялікай папулярнасцю карысталіся катэхезы, праведзеныя а. Аляксандрам Жарнасекам, марыянінам, і а. Віталем Юркевічам, капуцынам. Дапамогу ў працы з моладдзю аказалі маладыя католікі з Маладзечна, якія належаць да руху "Аазіс жыцця ў Беларусі". Яны праводзілі разнастайныя гульні, арганізоўвалі спевы і танцы.

Госць імпрэзы – польскі ансамбль "Echo Sakrosongu" – парадаваў моладзь канцэртам. Завяршылася Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі Св. Імшой на алтары-караблі, якую ўзначаліў кардынал Райнер Марыя Вёлькі з Берліна.

**На здымку:** удзельнікі сустрэчы ў Браславе.





# Нунцый наведаў Браслаў

**Апостальскі Нунцый у Беларусі 16 жніўня наведаў парафію Нараджэння Маці Божай у Браславе. Візіт іерарха быў звязаны са штогадовымі святкаваннямі каля абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Падчас Св. Імшы Клаўдыё Гуджэроці ўдзяліў сакрамант канфірмацыі маладым вернікам з розных парафій Віцебскай дыяцэзіі. У сваім казанні ён нагадаў прысутным пра дзеянне Святога Духа. Арцыбіскуп сказаў: "Хлопцы і дзяўчаты, не забывайце, што Бог любіць не толькі ўсіх людзей, але і кожнага з вас паасобку!"

Клаўдыё Гуджэроці нагадаў пра розныя дары Духа Святога, у тым ліку і пра дар моваў. З гэтай нагоды ён прызнаўся, што вельмі любіць беларускую мову і старанна яе вывучае.

Пасланнік Папы ў сваім звароце да маладых католікаў сказаў, што Касцёл – гэта Хрыстова Цела, адна вялікая Божая сям'я. Апостальскі Нунцый звярнуўся да моладзі з дзвюма просьбамі. Ён папрасіў маліцца за Папу Францішка і за Касцёл у Беларусі. Паводле слоў іерарха, Касцёл заўсёды быў моцны, таму што моц яго паходзіць ад Бога. Таму ўсе спробы знішчыць Касцёл заканчваліся няўдачай.

Урачыстая літургія ў браслаўскім санктуарыі завяршылася апостальскім блаславеннем.

### Шаноўны кс. Дзмітрый Рацько!

*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Няхай Пан Бог адорыць Вас шматлікімі ласкамі на жыццёвым шляху. Няхай спашле Вам моц, дасць натхненне і цярплівасць. Жадаем шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай. Няхай побач з Вамі заўсёды будуць шчодрыя і зычлівыя людзі. Са Святам!*

*Парафіяне касцёла бл. Юрыя Матулевіча ў Ветрыне*

### Віншуем!

*Віншуем кс. Аляксандра Дулінца з Днём нараджэння, які ён адзначае 28 жніўня. Кс. Аляксандр працуе ў нашай парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Падсвіллі адзін год.*

*Жадаем нашаму душпастыру моцнага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага супакою і шмат Божай ласкі. Выказваем падзяку за шчырую малітву, казанне Божага Слова, за спевы.*

*Парафіяне з Падсвілля*

### Паважаны кс. Мікалай Ліпскі!

*Прыміце нашы самыя цёплыя віншаванні з Днём нараджэння! Няхай жыццёвы вопыт і мудрасць дапамогуць дасягнуць Вам новых вышынь! Няхай апраўдаюцца Вашыя патаемныя жаданні і памкненні, захаваецца ўсё добрае, што ёсць у Вашым жыцці, прымнажаючы імгненні радасці, любові і аптымізму. Жадаем, каб поспех і натхненне былі вернымі спадарожнікамі ва ўсіх Вашых пачынаннях. Настойлівасці і цярпення ў вырашэнні штодзённых задач! Жадаем моцнага здароўя, апекі Маці Божай. Няхай Найсвяцейшае сэрца Езуса дапамагае Вам на святарскім шляху. Дзякуем за працу ў нашым касцёле.*

*Вернікі Лучайскай парафіі і а.г. Навасёлкі*

### Хвала Хрысту!

*16 жніўня адзначае дзень свайго нараджэння кс. Генадзь Рэйшэль. З гэтай нагоды з сэрцам, поўным павагі і пашаны, дасылаю віншаванні ад усёй парафіі з пажаданнямі багатага плёну на службе Божай.*

*Няхай Дух Святы напаўняе глыбокай верай, Езус Хрыстус надзяляе сваім цярпеннем, Маці Божая – Маці усіх святароў – ахінае сваёй лаской і пяшчотай.*

*Дзякуем за вялікую шчырасць у працы і падтрымліваем у штодзённай малітве.*

*Леакадзія Малей, парафія імя Найсвяцейшай Панны Марыі, Параф'янава*

### Віншуем!

*Віншуем ксяндза Андрэя Куліка з Днём нараджэння, які ён адзначае 26 жніўня. Цяпер кс. Андрэй працуе ў Канстанцінаве Глыбоцкага раёна, але мы яго памятаем, успамінаем у малітвах і ніколі не забудзем.*

*Жадаем кс. Андрэю, каб яго служэнне Богу і людзям прыносіла добры плён, а яго святарства заўсёды было пад апекай Маці Божай. Дзякуем за ахвярную і адданую працу ў пабудове касцёла ў Падсвіллі, за далучэнне моладзі, дзяцей, усіх парафіянаў да Бога. Няхай Пан Бог дапамагае яму ва ўсіх пачынаннях у Канстанцінаве.*

*З удзячнасцю, парафіяне з Падсвілля*

### З Днём нараджэння!

*16 жніўня Дзень нараджэння адзначае наш былы пробашч кс. Генадзь Рэйшэль. Мы віншуем кс. Генадзя і жадаем яму трываласці на святарскім шляху, плённай працы на Божай ніве, дароў Духа Святога і апекі Маці Божай.*

*Вернікі з парафіі св. Язафата ў в. Канстанцінава*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 6265

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3200 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 19.08.2013 г. у 18.20

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ